ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (17) жнівень 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

**На здымку:** арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці намашчае рукі новапрэзбітару Валерыю Марціноўскаму.

# Перад абліччам Валадаркі Азёраў

## Божы вузел

Сёлета VII Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі распачалася 15 жніўня. Некаторыя ўдзельнікі чакалі гэтых дзён амаль цэлы год. Санктуарый Маці Божай сабраў каля 300 маладых людзей, якія прыехалі сюды з Віцебска, Глыбокага, Полацка, Шаркаўшчыны, Мёраў, Мінска, Астраўца і іншых куткоў Беларусі.

Кожны з маладых людзей прыехаў не толькі, каб радасна, са спевам і малітвай, правесці час, але і каб распазнаць сваё пакліканне. Кожны з нас звязвае сваё жыццё неразрыўным вузлом з Панам Богам. Чым мацнейшы гэты вузел, тым большай будзе вера, а таксама і пакліканне. Таму тэма сустрэчы гучыць менавіта так: "Пакліканні – дар Божай любові". Выбіраць свой жыццёвы шлях чалавек пачынае ў маладосці, калі перад ім усё наперадзе. Тут, у Браславе, перад абліччам Маці Божай моладзь мела магчымасць папрасіць Заступніцу аб распазнанні жыццёвай дарогі.

Музычная група разам з прысутнай моладдзю ўпрыгожвала спевамі браслаўскую святыню падчас святой Імшы. Першы дзень сустрэчы прыпаў на ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Таму ў гэты дзень людзі радаваліся, як хоры анёлаў, бо Маці Божая ўзятая на нябёсы. Цудоўны пах кветак, якія парафіяне прынеслі, каб асвяціць, разносіўся па ўсім касцёле.

Пасля смачнай вячэры моладзь чакаў вясёлы канцэрт гурта "Amore vitae" з Мінска. Разам усе спявалі песні праслаўлення і любові да Госпада, танцавалі, узмоцненыя Божай любоўю.

## Сведчанні жыцця

Супольнай малітвай распачаўся другі дзень сустрэчы. На канферэнцыі Анжаліка Пілат расказала пра мары, якія ўзносяць чалавека да нябёсаў. Маладая асоба можа зразумець чаго дасягнуць, дзякуючы марам. Кожны чалавек мае "скрыню" на галаве. Але яна павінна быць запоўнена толькі добрымі думкамі і намерамі. Анжаліка расказала аб тым, што ўсё пачынаецца з любові. Мы можам любіць чалавека проста за тое, што ён ёсць.

*Працяг на старонках 12–13*



## Увага! Падпіска!




**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Атрымліваць нашу газету праз пошту надзвычай зручна. Гэта – адзіны спосаб пачытаць выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. **Кошт падпіскі на месяц – 2000 рублёў.** Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №8(17) жнівень 2012 г.

# Ліван чакае Папу




**14 – 16 верасня адбудзецца Апостальскае падарожжа Святога Айца Бэнэдыкта XVI у Ліван.**

Ліван – невялікая горная дзяржава на Блізкім Усходзе. Яе насельніцтва – 4 мільёны чалавек, сярод якіх хрысціяне складаюць 40 працэнтаў. У асноўным гэта прадстаўнікі Мараніцкай, Мелькіцкай, Сіракаталіцкай і Армянакаталіцкай цэркваў. Цікава, што ў арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да візіту Папы ўвайшлі не толькі каталікі, але і прадстаўнікі іншых канфесій.

"Узровень супрацоўніцтва хрысціянаў у Ліване нашмат апярэджвае экуменізм на міжнародным узроўні", – кажа кс. Марван Табэт (Marwan Tabet), каардынатар папскага візіту, у інтэрв'ю парталу www.news.va. Пацвярджэннем гэтаму можа быць ліст, які даслаў Святому Айцу Патрыярх Антыохіі Ігнацый IV Хазім. У ім, між іншым, зазначаецца, што Бэнэдыкта XVI у Ліване з радасцю чакаюць не толькі каталікі, але таксама і хрысціяне іншых канфесій.



Святы Айцец Бэнэдыкт XVI надае асаблівае значэнне гэтаму візіту. Падчас яго будзе падпісана і абвешчана Апостальская адгартацыя, прысвечаная праблемам рэгіёна. Гэты дакумент з'яўляецца плёнам разважанняў і дыскусій паміж удзельнікамі Сінода Біскупаў, які праходзіў у 2010 г. у Ватыкане.

"Паказальна, што падчас набажэнства будуць спяваць 7 хораў розных канфесій. Падчас святой Імшы ў Бейруце заспявае аб'яднаны хор колькасцю 300 чалавек", – кажа кс. Марван Табэт. Плануецца, што святую Імшу Папа адправіць на лацінскай мове. Цікава, аднак, што тэкст Евангелля будзе выкарыстаны з мараніцкага імшала і заспяваны паводле візантыйскай традыцыі, а Алелюя прагучыць па-армянску.

"Мы таксама рыхтуемся да сустрэчы Папы з моладдзю. Мяркуецца, што будзе 20 тысяч чалавек. Вырашана было не запрашаць на гэтую сустрэчу ні палітыкаў, ні іншых знакамітасцяў. Гэтая сустрэча – выключна для моладзі", – сказаў кс. Марван Табэт.

Ліван чакае Папу таксама ў малітве. Падрыхтаваны тэкст навэны, якой будуць маліцца хрысціяне ва ўсіх парафіях краіны. Ён уяўляе сабой разважанні на аснове ружанцовых Таямніцаў Святла. За дзевяць дзён да прыезду Папы ў кожным хрысціянскім доме Лівана вернікі запаляць свечку. Гэтае святло асветліць увесь Блізкі Усход.

*Паводле news.va*

**Алімпіяда**

## Адвага на фінішы

**Завяршыліся Алімпійскія гульні ў Лондане. Для спартсменаў гэта быў час напружанай барацьбы за медалі. Гледачы з захапленнем заўзелі за сваіх суайчыннікаў. Але сёлетняя Алімпіяда стала яшчэ і сведчаннем веры.**

Эфіопская бягунка на доўгія дыстанцыі Месэрат Дэфар (Meseret Defar) як толькі дасягнула фінішнай лініі, адразу выцягнула абраз Дзевы Марыі з Дзіцяткам Езусам. Яна прабегла са святой выявай усе 5000 метраў. Пацалункам і гарачай малітвай Месэрат аддзячыла Богу за заступніцтва і дапамогу падчас спаборніцтва.

"Гэта перадусім знак адвагі і знак моцы духу маладой спартсменкі", – пракаментаваў падзею кс. Адам Квяткоўскі SDS з Браслава. Ён дадаў: "У сучасным свеце шмат дзе мова пра Бога або любое праяўленне рэлігійнасці ўспрымаецца варожа. Месэрат Дэфар сваім учынкам паказвае нам, што не варта баяцца, а тым больш саромецца сваёй веры, калі на цябе глядзіць нават мільён чалавек".

*Паводле www.news.va*




## Вяртанне

Знакамітая амерыканская акторка Кэці Холмс пасля разводу з Томам Крузам афіцыйна вярнулася ў каталіцтва. Яна зарэгістравалася ў адным з касцёлаў Нью-Ёрка як парафіянка.

Да гэтага моманту Кэці падзяляла саенталагічныя погляды былога мужа. Том Круз вядомы як заўзяты прыхільнік саенталогіі*. Ён ужо пачаў выхоўваць дачку згодна з асновамі гэтай секты. Уплыў саенталогіі на выхаванне 6-цігадовай Суры і стаў галоўнай прычынай разводу. Цяпер акторка запісала дачку ў прэстыжную каталіцкую школу для дзяўчат. Дзяўчынка пачне навучанне ўжо ў верасні.

**Даведка "Каталіцкага Весніка"**
Саенталогія – сістэма рэлігійных вераванняў і практыкаванняў, заснавальнікам якой з'яўляецца амерыканскі пісьменнік-фантаст Рон Хабард. Яна змяшчае ў сабе элементы веравучэння будызму, юдаізму, хрысціянства, філасофіі Ф. Ніцшэ і псіхааналізу З. Фройда.



**Рэдакцыя дзякуе!**

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Аліцыя Трафімовіч** (в. Ліпнікі, Пастаўскі р-н), **Рэгіна Ракуцкая** (г. Браслаў), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Баляслаў і Рэгіна Драгусаль** (г. Барысаў), **Сцепаніда Лупач** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Марыя і Уладзімір Тупека** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н), **Станіслаў Вышадка** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Ала Ермаковіч** (в. Сітцы, Докшыцкі р-н), **Ядвіга Кісель** (г. Вілейка), **Вольга Куфтырава** (ст. Параф'янава, Докшыцкі р-н), **Ганна Карніловіч** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Ірына Круцько** (в. Ломашы, Глыбоцкі р-н), **Юлія Сакр** (г. Глыбокае), **Святлана Вайцяхоўская** (г.п. Відзы, Браслаўскі р-н), **Валянціна Зялёнка** (г. Барысаў), **Анатоль Цырук** (г. Глыбокае), **Лілія Лёвачкіна** (г.п. Варапаева, Пастаўскі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас блаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Колькі вернікаў на Зямлі?




Даследаванне, праведзенае Міжнароднай асацыяцыяй Гэлапа (Gallup International Association), ацаніла грамадзянаў 57 краін свету па ступені іх рэлігійнасці.

У цэлым 59% усіх рэспандэнтаў назвалі сябе рэлігійнымі, 23% сказалі, што яны нерэлігійныя, а 13% акрэслілі сябе атэістамі.

**Самыя атэістычныя краіны ў свеце**

| Краіна | Рэлігійныя | Нерэлігійныя | Перакананыя атэісты | Не ведаю/ Няма адказу |
|---|---|---|---|---|
| Кітай | 14% | 30% | 47% | 9% |
| Японія | 16% | 31% | 31% | 23% |
| Чэхія | 20% | 48% | 30% | 2% |
| Францыя | 37% | 34% | 29% | 1% |
| Паўдн. Карэя | 52% | 31% | 15% | 2% |
| Нямеччына | 51% | 33% | 15% | 1% |
| Нідэрланды | 43% | 42% | 14% | 2% |
| Аўстрыя | 42% | 43% | 10% | 5% |
| Ісландыя | 57% | 31% | 10% | 2% |
| Аўстралія | 37% | 48% | 10% | 5% |
| Ірландыя | 47% | 44% | 10% | 0% |

Пададзена 11 краін з-за прывязкі статыстыкі да 10% колькасці

**Самыя рэлігійныя краіны ў свеце**

| Краіна | Рэлігійныя | Нерэлігійныя | Перакананыя атэісты | Не ведаю/ Няма адказу |
|---|---|---|---|---|
| Гана | 96% | 2% | 0% | 1% |
| Нігеры | 93% | 4% | 1% | 2% |
| Арменія | 92% | 3% | 2% | 2% |
| Фіджы | 92% | 5% | 1% | 2% |
| Македонія | 90% | 8% | 1% | 1% |
| Румынія | 89% | 6% | 1% | 3% |
| Ірак | 88% | 9% | 0% | 3% |
| Кенія | 88% | 9% | 2% | 1% |
| Перу | 86% | 8% | 3% | 3% |
| Бразілія | 85% | 13% | 1% | 1% |

Цікавым аказалася параўнанне адносна ўзроўню рэлігійнасці паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Прапорцыя тых, хто акрэслівае сябе рэлігійнымі, найбольшая ў вернікаў індуізму і хрысціянства. Адстаюць мусульмане і юдэі.

| Рэлігіі | Рэлігійныя | Нерэлігійныя |
|---|---|---|
| Хрысціяне (усе канфесіі) | 81% | 16% |
| Мусульмане | 74% | 20% |
| Юдэі | 38% | 54% |
| Індуісты | 82% | 12% |

Беларусь у даследаваннях Міжнароднай асацыяцыі Гэлапа прадстаўлена не была.

*Паводле www.wingia.com*

Мінска-Магілёўская архідыяцэзія



# Рыцары Евангелля

**Рыцар – сярэднявечны ганаровы тытул у Еўропе (азначэнне з "Вікіпедыі"). А яшчэ ім называюць самаадданага і высакароднага чалавека. Вось толькі сёння ўсё часцей можна пачуць, што рыцараў у наш час застаецца менш і менш, і дзе шукаць іх – невядома. Сёлетняя сустрэча моладзі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў Івянцы стала своеасаблівай школай рыцарства для тых, хто жадае быць абаронцам Евангелля.**

**Тут для моладзі былі арганізаваныя канферэнцыі, тэматычныя круглыя сталы, рыцарскі вечар, музычны канцэрт, і, канечне, пэўны час быў прысвечаны малітве.**

■ **Святлана Жылевіч**, *тэкст;*
**Аляксандра Шчыглінская**, *фота;*
*catholic.by*

### Рыцарства ў наш час...

Ці магчыма ў наш час быць рыцарам, дамай сэрца? Ці наш час зусім іншы, і гэтае пытанне неактуальнае? Адказ на яго моладзі даў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. На думку іерарха, нельга казаць, што наш час дрэнны, бо "час" – гэта мы.

"Будзь добрым, і часы будуць добрыя. Пачынай з сябе, не са сваёй маці, сяброўкі, а з сябе", – дадаў біскуп Блін.

Хоць гэта складана, але неабходна і варта. Бо, як адзначыў Мітрапаліт Кандрусевіч, "свет патрабуе сведкаў Евангелля, патрабуе рыцараў Божага слова".

*Працяг на стар.15*

Пінская дыяцэзія

# Дзеля адзінства

**На манастырскім падворку ў вёсцы Церуха Гомельскага раёна 28-29 ліпеня прайшоў Міжканфесійны хрысціянскі фестываль "Хрыстус сярод нас".**

■ **Павел Міцкевіч**, *catholic.by*

Ва ўнікальным мерапрыемстве пад адкрытым небам удзельнічала каля 150 вернікаў з праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх цэркваў, у тым ліку святары, манахі і сёстры законныя. На падворку былі арганізаваныя намётавае мястэчка і палявая кухня.

Быццам нябесным бласлаўленнем сталі нечаканыя пырскі дажджу, што сярод гарачага сонечнага дня акрапілі ўдзельнікаў фестывалю проста перад яго адкрыццём. Вернікі гулялі разам у міні-футбол, валейбол, настольны тэніс, дзеці каталіся на надзіманых горках. Увечары гледачы ўбачылі галоўную, музычную частку фестывалю, зладзілі феерверк і запусцілі нябесныя ліхтарыкі.

Са сцэны гучалі вершы і песні на рускай, беларускай, украінскай і англійскай мовах, прычым не толькі духоўныя, але і ўсімі любімыя свецкія кампазіцыі. Ганаровымі гасцямі фестывалю сталі народны хор "Сож" і мінскі гурт "Tesaurus".

Ужо познім вечарам, пасля заканчэння афіцыйнай часткі, удзельнікі фестывалю сабраліся вакол вогнішча, пускаючы гітару па крузе. Не абышлося і без міжканфесійных дыскусій. Назаўтра свята працягнулася.

"У нас, на жаль, захоўваюцца некаторыя рознагалоссі, але самае галоўнае, каб гэтыя рознагалоссі не станавіліся асабістымі. Хай сярод нас будзе Хрыстус!" – падсумаваў вынікі сустрэчы галоўны арганізатар фестывалю, праваслаўны іераманах Мікалай Тарасенка.

# Вернікі, адданыя традыцыі

**У Мосары напрыканцы XVIII стагоддзя (1775-1790 гг.) Роберт і Ганна Бжастоўскія, род якіх валодаў Мосарам амаль 200 гадоў, пабудавалі прыгожы палац у стылі класіцызму, што, на жаль не захаваўся. А ў 1792 годзе яны фундавалі каталіцкую святыню пад тытулам святой Ганны, нябеснай апякункі жонкі фундатара.**

**кс. Аляксей Юркайць**

У гэтым годзе Мосарская парафія ва ўспамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, святкавала 220 гадоў святыні. Гэта значная дата, і таму варта было ўшанаваць усіх продкаў, якія чынілі добрыя справы на Мосарскай зямлі і былі сведкамі веры ў Бога.

На ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў ксёндз Аляксей, навуку прамовіў казнадзей-францішканін айцец Міраслаў Капчэўскі. Ён звярнуў асаблівую ўвагу на падзяку продкам гэтай зямлі, асабліва роду Бжастоўскіх, якія былі вельмі адданыя пану Богу. Шмат было сказана таксама аб прыкладзе святой Ганны ў Божым плане збаўлення, якая паказала і дала чалавецтву праз Панну Марыю Самога Бога – Езуса Хрыста, нашага Пана. Так і Мосарскія вернікі з пакалення ў пакаленне перадавалі прыгожыя традыцыі хрысціянскай веры, былі сведкамі адданасці Богу!

Напрыканцы святкавання вернікі падзякавалі свайму душпастыру ксяндзу Аляксею Юркайцю з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння, якая прыпадае на 25 ліпеня, і павіншавалі 29 ліпеня з 29-ым днём нараджэння, пажадаўшы моцнага здароўя душы і цела, Божага блаславўлення і Духа Святога ў душпастырстве!

Мосарская святыня сапраўды надзеленая асаблівай Божай ласкай: увесь час у ёй маліліся, прыходзілі да рэліквій шматлікія людзі. Хоць гэты касцёл шмат і перажыў за часы свайго існавання: пабачыў і тры вайны, і спробы ператварыць яго ў царкву, а ў 1960-80-ых гадах – увогуле ледзь не зачыненне. Але ўсе пагрозы былі бяздзейсныя – касцёл заўсёды заставаўся святыняй.

Таму жыхары парафіі захавалі прыгожыя старадаўнія традыцыі і веру. Дык няхай жа праз заступніцтва святой Ганны гэтае сведчанне жывой і праўдзівай веры і надалей трывае з пакалення ў пакаленне і прыносіць багатыя плёны для навяртання людзей і Божага Валадарства!



**На здымку:** айцец Міраслаў Капчэўскі з Удзела гаворыць казанне.

# Дом пілігрыма ў Мосары




**Дамы для пілігрымаў заўсёды ствараюць каля месцаў паломніцтваў, каля Санктуарыяў, каб людзі маглі пераначаваць і больш часу пабыць з Богам у святым месцы. У многіх краінах Еўропы каля касцёлаў ёсць вялікія шматпавярховыя гмахі – Дамы пілігрымаў. І вось у Мосары з'явіўся, хоць і не вялікі, свой Дом пілігрыма.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Людзі, якія шукаюць Божага супакою і імкнуцца наталіць Божай ласкай свае духоўныя прагненні, змогуць знайсці ў ім прытулак, каб адпачыць душою і спыніцца на больш працяглы час у Мосарскім Санктуарыі.

У суботні вечар, 28 ліпеня 2012 года, у парафіі ўрачыста быў адчынены і асвечаны Дом пілігрыма. У імпрэзе прымалі ўдзел айцы-францішкане Вальдэмар Куява і Ян Гернік, манахі-капуцыны і парафіяне. Начлег у Доме пілігрыма стаў магчымы дзякуючы намаганям душпастыра і парафіянаў.

Тут ёсць усё для жыцця, маюцца ўсе выгоды, як у горадзе, таму можна спыніцца ў Доме пілігрыма разам з дзецьмі. Парафія ў стане прыняць на начлег да 17 чалавек. Умовы простыя, як для пілігрымаў. А што яшчэ трэба, каб пераначаваць, пажыць у святым месцы каля касцёла – Мосарскага Санктуарыя?

У нас пілігрым не павінен плаціць грошы, як у агнасядзібах, але можа скласці ахвяраванне, каб у нейкай ступені пакрыць выдаткі за пражыванне ў парафіі.

Размясціцца можна на неабмежаваны час: на дзень, тры дні ці тыдзень.

У Мосары таксама шмат сажалак з рыбай і ёсць вялікае возера Царкавішча, прыемнае, чыстае паветра, палі, лясы і проста цудоўнае ціхае, прыгожае і святое месца для адпачынку. Ахвотныя таксама могуць і папрацаваць каля касцёла ў кветніках.

Як дамовіцца? У нашай парафіі ёсць інтэрнэт-сайт, у рубрыцы "Кантакт" пададзена адпаведная інфармацыя, як патэлефанаваць і дамовіцца з душпастырам парафіі.

Таму шчыра запрашаем пры нагодзе на начлег у Дом пілігрыма ў Мосары!

## З удзячнасцю святарам

У дунілавіцкім касцёле Маці Божай Шкаплернай 16 ліпеня адбыўся парафіяльны фэст, на які пробашч парафіі кс. Павел Самсонаў запрасіў і нас, сваіх былых парафіян з Канстанцінава. Мы вельмі рады гэтаму запрашэнню. Набажэнства было цудоўнае і ўрачыстае. У касцёле ўтульна і прыгожа. Упэўніліся, што кс. Павел, дзе б ні працаваў, з'яўляецца шчырым і добрым гаспадаром, клапоціцца пра святыню. Пасля Св. Імшы ўсе прысутныя былі запрошаныя на каву і печыва. Шчыра ўдзячныя свайму былому пробашчу за сардэчную гасціннасць, за памяць пра нас. Хай добры Бог адорыць яго здароўем, сілай і вытрымкай у нялёгкай святарскай працы! Вялікі дзякуй і нізкі паклон ад былых парафіян.

А нашу парафію Св. Язафата Кунцэвіча Пан Бог таксама не пакінуў без добрага пастыра. Цяпер у нас працуе клапатлівы і вельмі добры кс. Генадзь Рэйшэль, за якога мы ўдзячныя Пану Богу.

*Часлава Вышадка*



**На здымку:** ксёндз Алег Буткевіч асвячае крыж на вежу касцёла.

# Увенчаны крыжам

**Важная падзея адбылася ў вернікаў парафіі св. Антонія Падуанскага ў Віцебску.**

Над іх касцёлам, які ўжо перабудоўваецца шмат гадоў, на днях узнеслася вежа з хрысціянскім крыжам. Гэта адбылося дзякуючы іх малітвам Богу, фінансавай дапамозе ахвярадаўцаў і адказнай працы будаўнікоў. А таксама дзякуючы нястомнай фізічнай і арганізацыйнай дзейнасці пробашча парафіі кс. Алега Буткевіча.

І хаця будаўніцтва яшчэ працягваецца, храм, які калісьці быў невыразным савецкім Домам культуры, набыў ужо сакральны выгляд. Увенчаны крыжам, ён цяпер, відавочна, нагадвае гараджанам, што спяшаюцца па будзённых справах ажыўленай віцебскай вуліцай Гагарына, аб вечным, аб духоўным, аб Хрысце.

І ёсць упэўненасць, што каталіцкі касцёл св. Антонія хутка стане годным упрыгожаннем ажыўленага праспекта, які таксама абнаўляецца.

*Фота І. Красоўскага, параф. св. Антонія, Віцебск*



# Мы разам!

**Дапамагаць бліжняму, быць разам з тымі, каму выпаў нялёгкі лёс… Што можа быць больш высакародным?**

**Ірына Атрахімовіч**, *тэкст;* **Алена Адэдэджы**, *фота*

28 ліпеня ў Глыбокім адбылася сустрэча людзей з псіхічнымі і фізічнымі захворваннямі. Словы “Мы разам!” аб’ядналі ўсіх. На свяце прысутнічалі госці з Пастаў, Шаркаўшчыны, Віцебска, Полацка, Мёраў, Крулеўшчыны. Мерапрыемства ладзілася на дзіцячай пляцоўцы “Брыганціна”. З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў звярнулася намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама па сацыяльных пытаннях Галіна Унуковіч. На спатканне завітаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін.

Летняе сонейка шчодра дарыла цеплыню ў гэты ліпеньскі дзень. А валанцёры не менш шчодра дарылі радасць і ўсмешкі дзеткам і дарослым. Для ўдзельнікаў быў прыгатаваны смачны абед. Закончылася сустрэча цікавым канцэртам у СШ №1. Там жа знаходзілася і выстава вырабаў, зробленых рукамі людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Дзякуючы зладжанай працы валанцёраў прысутным было прыемна, зручна і ўтульна адпачываць.

Акцыя “Мы разам!” садзейнічала збліжэнню людзей. Шчырая падзяка пробашчу глыбоцкай парафіі Св. Тройцы кс. Мечыславу Янчышыну, пры падтрымцы якога парафіяльны “Карытас” распачаў сваю дзейнасць, а таксама дырэктару парафіяльнага “Карытас” Іне Вайцяховіч, каторая апекавалася гэтай справай.



**Камаі**

# Святы і будні Камайскага касцёла

**Важныя падзеі адбыліся 1 ліпеня ў Камайскім касцёле.**

Па-першае, сакратар Апостальскай Нунцыятуры ксёндз-пралат Крыспін Дубель удзяліў сакрамант бежмавання 23 маладым хлопцам і дзяўчатам і ўручыў медалікі і абразкі ад Папы Бэнэдыкта XVI.

Па-другое, быў асвечаны юбілейны звон вагой каля 500 кг з выявай Маці Божай Чанстахоўскай. Гэта ўжо другі юбілейны звон, набыты касцёлам.

Па-трэцяе, роўна 10 гадоў таму быў прызначаны пробашчам нашага касцёла кс. Яцэк Хутман.

Свята праходзіла прыгожа і ўрачыста, было шмат вернікаў.

Дзякуем Пану Богу за тыя вялікія справы, якія Ён здзейсніў праз кс. Яцэка ў нашай парафіі. Цяжка, а можа, і ўвогуле немагчыма пералічыць усё зробленае. Гэта і штодзённае добрасумленнае выкананне святарскіх і душпастырскіх абавязкаў, і праца па рамонце, рэстаўрацыі і фарбаванні касцёла звонку, і перапланіроўка тэрыторыі парку перад касцёлам, устаноўка ліхтароў у ім. Як хораша зазззяў парк у гонар 400-годдзя галоўнага абраза касцёла – Маці Божай Чанстахоўскай! А перад юбілеем копія абраза, асвечаная кардыналам Казімірам Свёнтакам, абышла ўсю парафію, наведала кожны дом. Абраз адкрываецца перад Імшой і закрываецца пасля яе прыгожай заслонай (адзіны ў касцёлах Беларусі) пад мелодыю “О Ты, што трон Сабе ў нас абрала…”

Кожная Імша праходзіць у суправаджэнні арганнай музыкі і прыгожага спеву арганісткі і касцельнага хору. Да 100-годдзя аргана набыты абраз Св. Цэцыліі. Пакрытыя пазалотай рамкі абразоў і начынне для правядзення Эўхарыстыі, набыты новы канфесіянал, мэбля для захрыстыі. Устаноўлены памятныя дошкі славутым людзям, лёсы якіх звязаныя з гісторыяй касцёла, адкрыты музей даўнейшых касцельных рэчаў. За кожнай з гэтых спраў схаваная вялікая праца, шмат духоўных сіл і матэрыяльных выдаткаў.

Пішацца гісторыя касцёла і парафіі. Сабрана шмат матэрыялу, з якога бачна, што кожны куточак камайскай зямлі – гэта і легенда, і быль, і суровая праўда. Пра гэта сведчаць і каменны крыж у парку перад касцёлам з надпісам аб пераемнасці пакаленняў, і крыпта ў капліцы, у сцяне якой умуравана каля 40 трунаў з парэшткамі памерлых з роду фундатараў касцёла і капліцы, і французскія, нямецкія і габрэйскія могілкі на тэрыторыі парафіі. І ўсюды намаганнямі кс. Яцэка і парафіянаў наводзіцца належны парадак.

Наперадзе шмат цікавых спраў і ідэй. Хочацца, каб усе яны ўвасобіліся ў жыццё, і тады Камайшчына можа стаць адным з цэнтраў агратурызму Паазер’я. А кс. Яцэку жадаем усіх дароў Духа Святога, апекі і нястомнай дапамогі Маці Божай, здароўя і аптымізму, поспехаў ва ўсіх справах.

*Парафіяне Камайскага касцёла Народзінаў Св. Яна Хрысціцеля*

**Друя**

# Сустрэчы падчас пілігрымкі

Божы Провід пакіраваў так, што я крочыла ў пілігрымцы Глыбокае – Будслаў. Пробашч парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім кс. Мечыслаў Янчышын у 90-ыя гады – час адраджэння святыняў – служыў у лепельскім касцёле Св. Казіміра і зрэдку прыязджаў маліцца ў Сянно, дзе я тады жыла. Берагу падарунак кс. Мечыслава – ружанец, малюся на ім. Божая ласка дакранулася да мяне ў пілігрымцы: зноў мела магчымасць маліцца разам з паважаным мной святаром, слухаць навуку, малітоўныя разважанні.

Дзякую Пану Богу за сустрэчу ў в. Сітцы з гасціннымі гаспадарамі Язэпам і Станіславай Лявохамі, якія прынялі на начлег. Дзякуючы руплівай працы іх дом літаральна патанае ў кветках і зеляніне. Ружы, лілеі, бергамоты, хрызантэмы радуюць прыгажосцю і хараством. Нізкі паклон гаспадарам!

*Спадарыня Бярнарда, парафія Св. Тройцы ў Друі*

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №8(17) жнівень 2012 г.

# Лучайскі фэст – the best!





**Для Лучайскай парафіі Ганна – больш чым проста жаночае імя. Гэта сімвал светлага духоўнага свята, якое штогод збірае разам мясцовых жыхароў і шматлікіх гасцей. Сёлета ўрачыстасць у гонар святой Ганны адбылася 28 ліпеня і падаравала прысутным асабліва шмат станоўчых эмоцый. Прыграма свята была надзвычай насычанай.**

**Іна Сняжкова**

Калі звярнуцца да гісторыі, то, аказваецца, святую Ганну ўшаноўвалі ўжо ў VI стагоддзі. У 555 годзе ў Канстанцінопалі быў пабудаваны храм у гонар святой. Паўсюдным жа ўшанаванне святой Ганны стала ў XIII – XIV стст.

Для вернікаў Ганна – узор і прыклад духоўнага, рэлігійнага выхавання. Святая Ганна і Яўхім выхавалі Панну Марыю настолькі, што яна змагла прыняць Духа Святога. Яна ўзор бабулі і маці, што навучыла вернасці, адказнасці, працалюбству.

Фэст святой Ганны ў Лучаі традыцыйна пачаўся са святой імшы, у якой прынялі ўдзел сотні вернікаў з самых розных парафій. Столькі каталікоў у касцёле св. Юды Тадэвуша ў Лучаі сустрэнеш нячаста. Акрамя галоўных літургічных святаў – усяго тры разы на год, калі праходзяць адпустовыя ўрачыстасці ў гонар святых Андрэя Баболі, Ганны і Тадэвуша.

Святую імшу ўзначаліў мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі. Бралі ў ёй удзел і прыезджыя святары з Сянна і Дунілавіч.

Пасля святой імшы адбылося асвячэнне чарговых новых барэльефаў, якія ствараюць унікальнае Евангелле ў абразах вакол касцёла. Размяшчаюцца яны ва ўжо існых нішах агароджы вакол святыні, "узрост" якой налічвае каля трохсот гадоў. Усяго плануецца стварыць больш за шэсцьдзясят барэльефаў, прычым каля паловы ўжо гатовыя. Іх выканаўца – мастак з-пад Мінска Леў Аганаў.

Барэльефы не адзіныя "навацыі" на тэрыторыі старажытнага касцёла. Адна за адной тут з'яўляюцца велічныя скульптуры каталіцкіх святых, радуе вока і сэрца новая капліца св. Францішка, дэкаратыўная кампазіцыя з вадаёмам і макетам панскага палаца ў Лучаі, які быў знішчаны падчас Вялікай Айчыннай вайны. Мяркуючы па колькасці будаўнічых матэрыялаў каля касцёла, добраўпарадкаванне тэрыторыі яшчэ далёка не закончана.

Пасля асвячэння барэльефаў адбылася насычаная святочная праграма з "Лучайскімі пачастункамі", забавамі, "Вёскай майстроў". Яркай аказалася музычная частка фэсту: свае песні прысутным прэзентавалі супрацоўнікі Навасёлкаўскага Дома культуры, а таксама папулярныя беларускія гурты "Небасхіл", "Recha" і "N.R.M." Дарэчы, падобныя канцэрты для Лучая – з'ява звыклая. Кожны месяц, пачынаючы з красавіка гэтага года, тут праходзяць выступленні вядомых музыкантаў. Запланаваны яны і надалей, аж но да студзеня наступнага года.

Упершыню адбылося сёлета ў Лучаі фаер-шоу, якое арганізавалі запрошаныя госці з Мінска. Закончыўся фэст яркім салютам над касцёлам.





## Лучай запрашае школьнікаў!

**Сябры, парафія ў Лучаі (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) чарговы раз дае магчымасць супольна адпачыць, памаліцца і культурна ўзбагаціцца.**

Хутка пачатак новага навучальнага і катэхетычнага года. З гэтай нагоды запрашаем студэнтаў, школьнікаў, бацькоў, настаўнікаў і выхавацеляў, каб навучанне пачаць з Божым блаславеннем. Пасля святой Імшы Вас чакае цудоўны канцэрт!!!

У гэты дзень у касцёле адчыніцца новая фотавыстава, тэматыка якой прымеркавана лучайскім святам, якія многім запомніліся сваім харавством і духоўнасцю.

**ЧАКАЕМ ВАС 2 ВЕРАСНЯ. ПАЧАТАК У 15:00.**

***Пробашч кс. Мікалай Ліпскі***

# Скарб Віцебшчыны







**Адной з галоўных летніх падзей у Лучаі стала асвячэнне капліцы св. Францішка на тэрыторыі мясцовага касцёла.**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;*
**Андрэй Мацур, Альфрэд Мікус,** *фота*

Ідэя яе стварэння ўзнікла дзякуючы буслам, якія некалькі гадоў таму пасяліліся на дрэве каля агароджы. А паколькі св. Францішак з'яўляецца апекуном прыроды, кс. Мікалай вырашыў побач з гэтым сімвалічным месцам зрабіць капліцу з выявай святога. Ад ідэі да яе ўвасаблення прайшло некалькі гадоў, і сёння ў Лучаі з'явілася яшчэ адно месца для шчырай малітвы.

Для асвячэння капліцы ў Лучай былі запрошаныя айцы-францішкане з Удзела (Глыбоцкі раён) і айцы-капуцыны з Докшыц. Удзельнічалі яны і ў святой Імшы, якая ў той дзень была асабліва ўрачыстай: парафіяне ад усяго сэрца віншавалі ксяндза Мікалая Ліпскага з юбілейным днём нараджэння.

Кс. Мікалай кажа: "Лучайскі касцёл – сапраўдны скарб Віцебшчыны, і не толькі архітэктурны, але і духоўны. Нездарма гаворацць, што тут можна ўбачыць "усмех Бога" –настолькі непаўторная прыгажосць гэтых мясцін."

Пятага жніўня ўвойдзе ў гісторыю парафіі яшчэ і таму, што менавіта ў гэты дзень упершыню прагучаў гімн Лучая. Ідэя, як і з капліцай, выношвалася доўга і ажыццявілася сёлета, калі Лучаю споўнілася 470 гадоў з моманту заснавання. Аўтары гімна – парафіянін Алег Зямчонак з "пастаўскага Парыжа" і мінскі кампазітар Аляксей Жбанаў – падаравалі прысутным незвычайныя пачуцці гонару за сваю маленькую радзіму. Праца над галоўнай песняй парафіі яшчэ вядзецца: кампазітары спрабуюць пакласці тэкст на музыку аргана або аркестра. Вядзецца работа і па стварэнні герба і сцяга Лучая.

Дзякуючы такім мерапрыемствам з кожным месяцам пра Лучай даведваецца ўсё большая колькасць людзей. Ахвотнікаў прыехаць сюды таксама становіцца толькі больш. З задавальненнем прыходзяць на святы і мясцовыя жыхары, каб адпачыць ад штодзённай мітусні і гаспадарчых клопатаў, духоўна і культурна ўзбагаціцца.

Вось і гэтым жнівеньскім вечарам "на ўра" ўспрымалася выступленне беларускамоўнага гурта "Recha" і мінскага барда Аляксея Жбанава, якія паставілі ў святкаванні музычную кропку. Дакладней, шматкроп'е, бо яшчэ столькі ўсяго наперадзе...



Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №8(17) ...жнівень 2012 г.

# Як нараджаецца пакліканне...



**Сёлета невялічкае мястэчка Фарынава, што знаходзіцца ў Полацкім раёне, падаравала Віцебшчыне новага святара. Таму ў гэтым нумары ксёндз Вячаслаў Адамовіч раскажа “Каталіцкаму Весніку” пра свой шлях да Пана Бога.**

**– Ксёндз Вячаслаў, кім Вы марылі стаць у дзяцінстве?**

– У дзяцінстве быў хіба стандартны набор мар – касманаўт, пілот... Але ў сувязі з тым, што бацька быў вайскоўцам, вядома, не бракавала мараў і аб тым, каб таксама сваё жыццё злучыць з вайсковай службай.

**– Раскажыце пра свой шлях да Бога...**

– У Фарынаве каталіцкая парафія невялікая і маладая. Існуе яна яшчэ толькі 12 гадоў. Пачаткова фарынаўскія вернікі збіраліся на супольную малітву ў мясцовым Доме культуры. Ад першага моманту мая маці пачала ўдзельнічаць у Святой Імшы, якая адбывалася два разы на тыдзень: у сераду і ў нядзелю. Да нас прыязджаў ксёндз Вячаслаў Барок, які служыў не толькі ў нашай парафіі, але таксама і ў Расонах, Блізніцы і ў Ветрыне. Некалі мама запрапанавала пайсці з ёй на Імшу. Да гэтага моманту я з Касцёлам не меў нічога супольнага. Урэшце я згадзіўся пайсці разам. З тае пары Касцёл стаўся часткай майго жыцця. Прыклад вернікаў, прыклад маладога святара, які ахвярна служыў людзям, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, а таксама добрая атмасфера супольнай малітвы і пачуццё, што знаходзішся ў адпаведным і патрэбным для цябе месцы, схілілі мяне да таго, што я пачаў хадзіць у касцёл.

**– Як першапачаткова паставіліся бацькі да Вашага выбару?**

– Напэўна, здзівіліся. І, напэўна, вельмі гэта перажывалі. Цяпер перажываюць яшчэ больш. Але непасрэдна перад тым, як уже трэба было ехаць у семінарыю, бацька мне сказаў, што гэта мой асабісты выбар і яны з маці заўсёды будуць мяне падтрымліваць у пакліканні.

**– Што б Вы назвалі сваім найвялікшым захапленнем?**

– У жыцці ёсць шмат розных захапленняў, але думаю з іх усіх літургія Касцёла з’яўляецца найбольшым. Літургія – гэта вельмі багатая крыніца Касцёла, а таксама крыніца нашай малітвы і Божай прысутнасці ў нашым жыцці. Менавіта гэтае захапленне выклікала ў мяне жаданне прысвяціць літургіі сваю магістарскую працу.

**– Моманты, якія найбольш запомніліся Вам падчас навучання?**

– Такіх момантаў было вельмі шмат. Першы, які прыходзіць у галаву, – гэта вусны экзамен па гісторыі філасофіі, што я здаваў, вельмі дрэнна валодаючы польскай мовай. Але на чацвёртым курсе здаваў экзамен па гамілетыцы на беларускай мове. У памяці вельмі шмат розных момантаў, злучаных з навукай у семінарыі. Было шмат цікавых заняткаў, розных падарожжаў, шмат новых знаёмых.

**– Якія людзі на шляху да святарства больш за ўсё дапамагалі Вам і захаплялі?**

– Першым, хто з’явіўся на маім шляху да святарства, быў ксёндз Вячаслаў Барок. Менавіта дзякуючы яго жарту ў мяне нарадзілася і развівалася думка аб святарстве. Прыклад гэтага маладога святара захапляў мяне, паказваў, што для чалавека-верніка, для святара шматлікія цяжкасці не з’яўляюцца перашкодай. Таксама вельмі яскравым прыкладам і дапамогай ёсць для мяне ксёндз Міхал Станьчук з Польшчы, які некалі працаваў у нашай Фарынаўскай парафіі. Гэты старэйшы чалавек сваім жыццём і ахвярнай працай паспрыяў таму, што маё пакліканне ўзрастала.

**– За што б Вы перш за ўсё падзякавалі Пану Богу?**

– Перадусім за бацькоў, за тое, што далі мне жыццё, выхавалі і блаславілі на шляху да святарства. Дзякую таксама Госпаду за сваё пакліканне, за тое, што з’яўляюся часткай Касцёла.

*Гутарыла* **Ірына Грэйць**

# Святар навечна

**18 жніўня ў Браславе ва ўрачыстасць Маці Божай Валадаркі Азёраў адбылася святая Імша з удзяленнем святарскага і дыяканскага пасвячэнняў. Сярод траіх новапрэзбітараў быў кс. Вячаслаў Адамовіч.**

**с. Святлана Грэйць**, *тэкст;* **Ірына Грэйць**, *фота*



Святар нарадзіўся ў 1985 годзе ў вайсковым гарадку каля Ветрына, у сям’і вайскоўца. У 1992 годзе Адамовічы пераехалі ў Фарынава. Там кс. Вячаслаў скончыў школу. У 2006 распачаў вучобу ў Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Гнезне і ва Універсітэце імя Адама Міцкевіча ў Познані.

Дыяканскую практыку праходзіў у Паўлове (Польшча), у архікатэдры ў Гнезне і ў Глыбокім. Навуку і семінарыйную фармацыю скончыў у 2012 годзе з тытулам магістра тэалогіі. Тытул магістарскай працы – “Роль працэсіі паводле Дэрыктывы аб народнай пабожнасці і літургіі.”

Пасля сканчанай семінарыі кс. Вячаслаў распачаў вельмі важны і адказны момант у сваім жыцці. Адказаўшы канчаткова Госпаду ”так”, ён прымае святарскія пасвячэнні. Другім важным момантам у жыцці кс. Вячаслава стала прыміцыйная св. Імша, якая адбылася 19 жніўня ў Полацку.

Ва ўрачыстай св. Імшы прынялі ўдзел бацькі, родныя, знаёмыя, святары і сёстры законныя. Божае Слова падчас прыміцыйнай св. Імшы прамовіў кс. Віктар Місевіч. Напрыканцы Эўхарыстыі новапрэзбітар падзякаваў найперш Пану Богу за дар паклікання да святарства, бацькам і хросным, а таксама ўсім тым, хто прычыніўся да ўзросту веры і паклікання ў яго жыцці. Словы віншавання скіравалі дзеці, моладзь і дарослыя з полацкай парафіі. Напрыканцы св. Імшы святары, сёстры законныя, бацькі, брат, усе сабраныя парафіяне і госці атрымалі прыміцыйнае благаслаўленне.

Дзякуем Пану Богу за кс. Вячаслава, за новых святароў, няхай добры Бог адорыць іх сваёю моцай і бязмежнай любоўю, каб былі мужнымі сведкамі ў абвяшчэнні Добрай Весткі.

# Цуды Усявышняга

**Робячы для людзей цуды, Пан Бог паказвае нам сваю веліч, моц, магутнасць. Пра шматлікія дзівосныя і неверагодныя ўчынкі Езуса Хрыста чытаем у Святым Пісанні. Але таксама і зараз Бог спасылае на нас свае незлічоныя ласкі.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**Аляксандр Корсак:**
– Падчас сесіі я аднойчы не падрыхтаваўся да экзамену. Ён быў не надта складаны. Але выкладчык быў вельмі злы. Перад экзаменам я пайшоў у касцёл, каб шчыра папрасіць Госпада дапамагчы мне здаць. І ведаеце, я здаў на выдатна! Тады я быў рады, як слон! Праз тыдзень я спецыяльна не вывучыў наступны экзамен. І не здаў яго. Таму Бог дапамагае толькі тады, калі гэта сапраўды патрэбна.



**Жан Банзекуліваха:**
– Літаральна нядаўна з маім сябрам адбылася цікавая гісторыя. На экзамен ён вывучыў не ўсе білеты. Перад сном іх паўтарыў. Ноччу прысніў сон, што выцягне 12-ты білет. Раніцай хлопец расказаў пра сон маці. Яна параіла цягнуць той білет, які ўбачыць першым. На экзамене ён зрабіў менавіта так. І атрымаў добрую адзнаку. Цяпер я разумею, што Пан Бог паказвае цуды чалавеку ў самыя адказныя моманты.



**Ала Забалатнюк:**
– Галоўны цуд – гэта тое, што Бог прывёў мяне менавіта ў касцёл. Раней я туды не хадзіла, усе хрысціянскія святы адзначала па-свецку. Калі мы з мужам пажаніліся, то шлюб не бралі па-хрысціянску. Але з часам жаданне даць клятву перад Богам узмацнялася. Маю маці адпявалі ў праваслаўнай царкве. Вось тады я захацела паразмаўляць са святаром пра шлюб. Патрэбна было перахрысціцца ў праваслаўе. Гэта здалося мне нейкай здрадай, бо ахрышчана я была ў касцёле. Я пайшла ў святыню… У той жа час ксёндз казаў аб еднасці хрысціян… Гэта быў адказ Бога на маё пытанне, куды мне хадзіць. З тае пары Госпад заўсёды адказвае мне на патрэбныя пытанні.



**Людміла Падаляка:**
– Калісьці ў маёй каляжанкі нарадзілася дзіця. А мне ўрачы сказалі, што дзяцей я мець не буду. Каля маленькага немаўляці сяброўкі я прысела і з жалем прамовіла, што такога цуда ў мяне ніколі не будзе. Сказаўшы гэтыя словы, я адчула нейкую гарачыню… Праз 9 месяцаў я нарадзіла. Тады толькі зразумела, што гэта справа Духа Святога. Раней малілася толькі сваімі словамі, у касцёл не прыходзіла. Але аднойчы ранкам хтосьці нібыта выліў на мяне зімнай вады. Я пайшла да Бога. З таго часу заўсёды хаджу на Святую Імшу.



**Сяргей Атрошчанкаў:**
– Мяне заўсёды цягнула да Сафійскага Сабора. Аднойчы сустрэў там уніяцкага святара. Тады і адбылося маё навяртанне. Я прыступіў да першай споведзі. Мне было тады прыкладна 44 гады. Пасля майго прыходу да Пана Бога пачаліся цуды. Я стаў чытаць рознага кшталту духоўную літаратуру, Біблію. Але самае дзіўнае тое, што ў маіх думках пачалі складвацца вершаваныя малітвы, я пачаў пісаць музыку. Хоць да гэтага ніколі такім не займаўся. Таму я вельмі ўдзячны Хрысту за тое, што Ён са мною ўчыніў.

# 100 год касцёла



Унядзелю 19 жніўня кардынал Тэадор Маккарык, арцыбіскуп Вашынгтонскі на пенсіі, цэлебраваў Імшу ў мястэчку Іказнь, што на Віцебшчыне, з нагоды сотага юбілею святыні.

«Я прыбыў сюды, каб убачыць вашую веру і любоў да Бога і адно да аднаго», — адзначыў кардынал. У Беларусь іерарх прыбыў на ўрачыстасці Маці Божай Браслаўскай.

У Іказні кардынала чакалі каля 700 вернікаў, хаця тут пражывае ўсяго 300 жыхароў. Некаторым з іх іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі.

«Вашыя бацькі, хросныя, бабулі і дзядулі прайшлі праз вельмі цяжкі час. Але яны не страцілі веру. Быць каталіком у любы час патрабуе мудрасці і вялікай смеласці», – прыводзіць словы кардынала Тэадора Маккарыка партал Westki.info.

«Вы ведаеце, што быць з Езусам Хрыстом нялёгка. Гэта незаўсёды папулярна. Але Хрыстус заклікае быць з Ім і шукаць Яго. Вы не будзеце шчаслівымі, пакуль не будзеце з Богам. Не шукайце шчасця ў свеце, не дазваляйце галасам гэтага свету кіраваць вамі, бо Пан вучыць вас праўдзе і яго закон нясе шчасце для ўсіх людзей», – адзначыў кардынал.

«Бог сёння дае вам новае жыццё з Хрыстом. Не толькі на маладых сыдзе Дух Святы, а на ўсіх, хто тут прысутнічае. Мы пачуем голас Бога, які заклікае вас быць добрымі, святымі людзьмі. Вы ўбачыце, што Святы Дух сыдзе на вас і Бог будзе благаслаўляць вас не толькі сёння, але і штодня», – сказаў іерарх.

*catholic.by*



**На здымку:** кардынал Тэадор Маккарык удзяляе сакрамант бежмавання. *Фота Кастуся Шыталя*

# Кнігі жалю і святла

**У канцы ліпеня паэтка Марыя Баравік прэзентавала ў Падсвільскай бібліятэцы кнігі "Камень смутку" і "Прымі, душа, таямніцу".**

**Марыя Новікава**

Пра "Камень смутку" аўтарка сказала: "Гэтая кніжка – свабода болю, споведзь душы ў жалобе па мужу. Нахлынуў, заліў усё ўнутры смутак па чалавеку, які быў у лёсавай бядзе і не выбраўся з яе. І другая душа ( я ) аказалася бездапаможнай. Прыйшоў магутны жаль, але праз яго прыйшло і святло.

*І дзякуй – шлях былы не агрубеў.*
*І, мабыць, гэта нам наканаванне:*
*Табе – мяне ж ударыць развітаннем,*
*А мне – малітвай промніць за цябе.*

Некаму ж дадзена прыйсці да прасветласці, веры і малітвы. Для перамянення, для думкі і слова, што "жыццё – дзень сённяшні". Будучыня – мара чалавечая. І чалавеку трэба так мала – любіць і множыць любоў у бліжнім. А найперш у самім сабе: да бліжняга ("Чуйце адзін аднаго", "Жыццё – час падзення знічкі"), бо жыццё дадзена для росту душы і пазнання Бога. А мы яго часта грэшна трацім."

Кніга "Прымі, душа, таямніцу", на першы погляд, камусьці магла падацца рэлігійнай, але гэта не так. У ёй сапраўды ёсць вершы-малітвы і Бог паўстае як суразмоўца, да якога звернута пытанне і разважанне Марыі Баравік. Але гэта, хутчэй, пошук адказаў у сабе, "рэнтген" свайго сумлення. "Мая душа адкрытая да веры, да лагічнага, жывога Бога. Няпраўда, што розум не ўдзельнічае тут. Бо разумная душа здагадваецца, выяўляе праз асабісты лёс. Яна павінна быць уважлівай. Плача заўсёды ў нашай душы Бог любові. Таму прымі, душа, таямніцу!" – так паэтка ахарактарызавала сутнасць гэтай кнігі.

Слухалі Марыю Баравік і выступалі з водгукамі на кнігу і яе творчасць чытачы бібліятэкі, сябры суполкі ТБМ і пісьменніца Вольга Іпатава.

Марыя Баравік вельмі ўдзячная выдаўцам – Яраславу Берніковічу, Змітру Лупачу, Таццяне Смоткінай – рэдакцыі рэкламнай газеты "Прэфект-інфо".




# Пілігрымка ў Смаляны

**Парафія Беззаганнага Сэрца Марыі ў г. Орша запрашае ўсіх ахвотных далучыцца да пілігрымкі.**

На адлегласці 26 кіламетраў ад Оршы знаходзіцца в. Смаляны. У 1678 г. там быў пабудаваны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, які цягам ваеннага ліхалецця і савецкага бязбожжа прыйшоў у занядбаны стан. Сёння мы прагнем аднавіць веру ў Хрыста на Усходзе. Шмат яшчэ людзей не спазнала Божую любоў. Хочам, каб Марыя, наша нябесная Маці, дапамагла сваім дзецям вярнуцца да Айца, які іх чакае.

8 верасня ва Урачыстасць Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі запрашаем усіх у Смаляны. Там, ля сцен старажытнага касцёла, будзем маліцца аб адраджэнні веры на Усходзе.



**Праграма:**

**12.45** – Збор пілігрымаў ля касцёла ў Оршы. (вул. Магілёўская, д. 81)
**13.00** – Пачатак аўтобуснай пілігрымкі Орша – Смаляны
**14.00** – Св. Ружанец
**14.30** – Канферэнцыя на тэму "Гісторыя, культура і духоўнасць Смалянаў"
**15.00** – Св. Імша з працэсіяй
**16.30** – Канцэртная праграма з пачастункам.

Арганізатары просяць пацвердзіць свой удзел па тэлефонах: 8-0216224613, +375297461708 або на электронны адрас: s.orsza@op.pl.

**Калі ласка, запрашаем!**

***Кс. Валерый Орсік,*** *пробашч парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў г. Орша*

# Укленчыць з малітвай



**3 – 4 жніўня ў адным з самых маляўнічых куточкаў Верхнядзвінскага раёна, што на Віцебшчыне, у в. Росіца адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя стагоддзю мясцовага касцёла і ўшанаванню яго бласлаўлёных пакутнікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. Мне пашчасціла прыехаць сюды разам з вернікамі Аршанскай парафіі і далучыцца да фэсту.**

**Алена Банкевіч**, *тэкст;* **Ірына Грэйць**, *фота*

Першымі гасцямі па традыцыі сталі пілігрымы, якія дабіраліся да касцёла пешшу. Самай шматлікай была пілігрымка з Барысава: каля ста чалавек восем дзён знаходзіліся ў дарозе. Жодзінская моладзь праехала на роварах больш за трыста кіламетраў. Некалькі дзён ішлі пілігрымы з Полацка і Друі. Госці былі з усёй Беларусі. І першыя словы прывітання ксёндз росіцкага касцёла Чэслаў Курэчка адрасаваў менавіта знясіленым ад летняй спёкі, але радасным, нягледзячы ні на якія цяжкасці, юным падарожнікам.

Падчас урачыстасці ў Росіцы Імшу апоўначы ўзначаліў біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец. Слова таксама ўзяў дэлегат айца-правінцыяла Польскай правінцыі ксёндз Томаш Навачэк, які шчыра вітаў прысутных. На росіцкіх урачыстасцях ён упершыню, таму і адзначыў, што перажывае вялікае ўзрушэнне, крочачы па зямлі бласлаўлёных Юрыя і Антонія.

У часе святой Імшы адбылася працэсія на месца пакутніцкай смерці. З паходнямі і свечкамі крочылі ўдзельнікі шляхам смутку, каб аддаць даніну павагі і памяці загінулым, каб папрасіць у Бога мужнасці ў штодзённым жыцці. На гэтам жудасным месцы ля высокага крыжа насыпана зямля і з магіл нашых беларускіх святароў, загінулых у сібірскіх лагерах. Іх лёс – гэта таксама ўзор самаадданасці і ахвяры.

Насычанай атрымалася праграма сёлетніх урачыстасцяў. Былі падрыхтаваны стэнды з гісторыяй касцёла, арганізавана выстава мастакоў “Званы Росіцы”. Адгучалі канцэрты класічнай і духоўнай музыкі. І, вядома ж, на працягу двух дзён вернікі ўвесь час маліліся. Святочная Імша апоўдні завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла.

Маліцца можна паўсюль. Аднак на зямлі ўзнікаюць месцы, дзе чалавек адчувае Божую прысутнасць асабліва. І гэтыя месцы ствараюць разам Божая ласка і малітва чалавека. За вякі існавання мала якая іншая святыня пачула столькі стогну і болю, як росіцкі касцёл за дні карнай акцыі. Укленчыць з малітвай у гэтым месцы – вялікае шчасце для хрысціяніна. Шляхам пілігрымак, сем'ямі, са знаёмымі і паасобку прыходзьце, прыязджайце ў Росіцу!

**Гістарычная даведка.**

Першы драўляны касцёл у Росіцы быў закладзены ў 1778 г. берасцейскім ваяводам Мікалаем Лапацінскім. Парафія расла і на пачатку ХХ ст. была самай шматлікай на Віцебшчыне, налічвала 8 тыс. чалавек. У снежні 1911 г. у Росіцы быў асвечаны новы каменны касцёл. З 1919 г. адміністратарам парафіі стаў ксёндз Пётр-Бярнард Капуста, ураджэнец гэтых мясцінаў. Аднак у 1930 г. ён быў арыштаваны і ў 1937 г. расстраляны. Наступным пробашчам стаў ксёндз Эдвард Вайцяховіч, якога расстралялі ў 1935-ым. У выніку Росіцкая парафія спыніла сваё існаванне. У самім касцёле месцілася хатачытальня. Неўзабаве былі разбураны і вежы касцёла.

Вернікі, якія жадалі мець свайго пастыра, у пачатку Другой сусветнай вайны запрасілі з Друі ксяндза-марыяніна Антонія Ляшчэвіча. У 1942 г. да яго далучыўся Юрый Кашыра. У жахлівыя лютаўскія дні 1943 г. пастыры не пакінулі сваіх прыхаджан і пайшлі разам з імі ў агонь.

Пасля вайны мала хто з тых вяскоўцаў, якія выратаваліся, вярнуўся ў Росіцу. Касцёл выкарыстоўваўся як калгасны склад. Толькі ў 1988 г. пад узначаленнем ксяндза Антонія Ляся пачаўся рамонт святыні, якая ўжо больш за 20 гадоў прымае паломнікаў з усёй Беларусі.

# Перад абліччам





*Пачатак на стар.1*

## Сведчанні жыцця

Падчас Святой Імшы айцец Андрэй Юхневіч засяродзіў увагу моладзі на прабачэнні: чалавек заўсёды павінен прабачаць больш разоў, чым яго крыўдзяць. Каб прабачыць, нам патрэбна перш за ўсё любоў Езуса Хрыста.

Маладыя людзі не павінны марнаваць свой час, а павінны вучыцца на працягу ўсяго жыцця, каб быць падобнымі да Пана Бога. Працуючы ў групах, моладзь прыклала ўсе намаганні, каб аказаць ўзаемадапамогу і падтрымку. Пасля абеду 12 груп паказалі мініяцюры і пантамімы пра "хуткую дапамогу".

Сваім сведчаннем падзялілася з моладдзю сястра Нунэ Цітаян. Жадаючыя задавалі пытанні пра паклікanні, пра манаскае жыццё.

Вечарам моладзь слухала спевы гурта "Подых Духа". Пасля вясёлай музыкі праслаўлення, супольных танцаў усе пайшлі адпачываць.

## Духоўнае і фізічнае ўмацаванне

Трэці дзень сустрэчы ў Браславе стаў замацаваннем у распазнанні паклікання маладых людзей. Працуючы ў групах, моладзь звязвала крэатыўныя вузельчыкі. Такім чынам яна сімвалічна ўмацавала сваё жыццёвае прызначэнне. На сваіх плакатах удзельнікі паказалі святароў, якія імкнуцца да святасці. На працягу ўсяго дня праходзілі канферэнцыі, звязаныя з тэмай паклікання.

Духоўна ўмацніўшыся ў святыні, моладзь і святары гулялі ў футбол. З лікам 6:4 перамагло духавенства. Нездарма на ранішняй Святой Імшы ўсе маліліся за сваіх душпастыраў.

На Замкавай гары Браслава, падчас крыжовага шляху, моладзь разважала над цярплівасцю, пакорнасцю, пакутай Езуса Хрыста.

Санктуарый Маці Божай Валадаркі Азёраў прывітаў у гэты дзень каля 70 пілігрымаў з Паставаў. Увечары ў Браслаўскай святыні вернікі атрымалі сакрамант канфірмацыі, прыняўшы ў сэрца Святога Духа. Каталікі ўсходняга абраду, сумесна з рыма-каталікамі, спявалі Акафіст да Маці Божай.

Апоўначы адбылася Святая Імша з ружанцовай працэсіяй.

## Новыя святары для Касцёла

18 жніўня галоўную святую Імшу а 11 гадзіне ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. З яго рук тры дыяканы прынялі святарскія пасвячэнні: дыякан Антон Лагунёнак, Валерый Марціноўскі, Вячаслаў Адамовіч. Дыяканскае пасвячэнне атрымаў клерык Іван Кароткін.

Акрамя ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі біскупа Уладзіслава Бліна варта адзначыць гасцей, якія сёле-



# Валадаркі Азёраў



та прыбылі да Маці Божай Владаркі Азёраў у Браслаў.

Гэта Кардынал Тэадор Маккарык з Вашынгтона (ЗША), Арцыбіскуп Збігнеў Станкевіч з Рыгі (Латвія), Біскуп Кірыл Клімовіч з Іркуцка (Расія) і архімандрыт Сяргей Гаек, апостальскі адміністратар для грэка-католікаў у Беларусі. На ўрачыстасці маліліся святары з Беларусі і замежжа, а таксама студэнты-семінарысты, сёстры законныя і шматлікія вернікі.

Прысутнічалі таксама прадстаўнікі дзяржаўных уладаў і прадстаўнікі пасольства Рэспублікі Польшча ў нашай краіне.

Падчас сёлетніх урачыстасцяў у браслаўскім санктуарыі асаблівым чынам маліліся аб тым, каб усе, хто чуе голас паклікання, не адкідвалі гэты дар, а таксама за тых, хто ў гэты дзень прымаў абавязак асаблівага служэння Хрысту і Яго Касцёлу.

Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці перадаў спецыяльнае прывітанне і благаслаўленне ад папы Бэнэдыкта XVI і заахвоціў памаліцца за Пантыфіка як яго верныя сыны і дочкі. Ён звярнуўся ў гаміліі да маладых кандыдатаў да святарства. “Дарагія кандыдаты! Вы будзеце служыць гэтаму народу, які мае сваю веру, сваю мову, сваю культуру, і гэта вялікая адказнасць”, - сказаў нунцый. “Касцёл патрабуе ад вас вельмі шмат, але таксама вельмі шмат дае. Мы ўсе гатовы вам дапамагчы”, – запэўніў арцыбіскуп Гуджэроцці будучых святароў.

Браслаўскі фэст перад абліччам Валадаркі Азёраў – гэта слаўная традыцыя Касцёла ў Віцебскай дыяцэзіі. Як бачым, падчас правядзення яго шмат увагі надзяляецца моладзі. Няхай жа квітнее вера ў сэрцах маладых людзей, а Марыя, наша нябесная Заступніца, дапамагае нам на шляху да неба.

***Ірына Грэйць***

У матэрыяле выкарыстаныя здымкі Ірыны Грэйць і каталіцкага партала catholic.by

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №8(17) жнівень 2012 г.

# Усынаўленне



**кс. Алег Кудэрка**

Мы жывём у складаныя часы. Асабліва для вернікаў сучасная эпоха, якая называецца постмадэрнісцкай, з'яўляецца часам вялікіх выпрабаванняў. Сёння чалавек пастаянна атакуе фразамі кшталту "вучэнне Касцёла састарэла", "Касцёл жадае навязаць іншым сваю ідэалогію, лезе не ў свае справы". Пад ціскам такіх меркаванняў хрысціянін можа лёгка адкінуць праўду Хрыста на карысць так званага сучаснага гуманізму, які абсалютызуе чалавечую свабоду і робіць з чалавека інстанцыю, каторая можа вырашаць, што з'яўляецца праўдай і дабром. Перад такімі выпрабаваннямі сёння стаяць і беларускія хрысціяне. Адно з іх – метад in vitro і яго легалізацыя дзяржавай.

Вучэнне Касцёла адносна пытання ненароджаных дзяцей вельмі выразнае і зразумелае. Пра гэта можна знайсці мноства доказаў у дакументах Апостальскай Сталіцы. Бласлаўлёны Ян Павел II казаў, што "нацыя, якая забівае сваіх дзяцей, – нацыя без будучыні". Кожны чалавек мае права на жыццё, бяспеку і павагу. Ненароджанае дзіця – гэта таксама чалавек, але пазбаўлены права жыць, бо такі выбар зрабіла яго маці. Узнікае пытанне: ці ёсць выбар у дзіцяці? НЕ, калі маці вырашыць інакш.

**Новае жыццё – дар Бога. Толькі Бог можа распараджацца жыццём і смерцю.**

Новае жыццё – дар Бога. Толькі Бог можа распараджацца жыццём і смерцю. Нельга ставіць сябе на месца Стваральніка ў імя свабоды выбару забойства, сцвярджаючы, што зачатае жыццё – гэта не чалавек. Закон павінен абараняць жыццё, асабліва тых, хто не можа сябе абараніць.

Вядома, што пры апладненні in vitro забіваецца ад 6 да 10 эмбрыёнаў. Хрысціяне як вернікі павінны прыкласці ўсе намаганні, каб абараніць жыццё безабаронных і не ўдзельнічаць у будаванні цывілізацыі смерці.

Езус Хрыстус, каб збавіць чалавека, стаў чалавекам. Такім чынам, Ён, як ніхто іншы, зведаў цяжар працы і нягоды чалавечага жыцця. У той жа час сваёю боскай прысутнасцю на зямлі і сваёю збаўчай ахвярай Езус асвяціў кожнае чалавечае жыццё. Калі сам Бог у Езусе Хрысце не пабаяўся прыняць людскую натуру і жыць як чалавек, значыць кожнае чалавечае жыццё – непарушнае і святое.

Існуе шмат формаў абароны і клопату пра жыццё. Адна з іх – усынаўленне.

Усынаўленне было вядома са старажытнасці. У Грэцыі і Рыме існавалі законы, якія рэгулявалі ўсынаўленне. Асабліва часта ўсынаўлялі хлопчыкаў (дзеля захавання роду і культу продкаў). У сярэднявеччы справамі ўсынаўлення займаўся Касцёл. Першыя запісы пра такую працэдуру адносяцца да IX ст.

**Кожны чалавек мае права на жыццё, бяспеку і павагу**

Большасць дзяцей, якія ўсынаўляліся, былі пазбаўленыя апекі біялагічных бацькоў. Часта ў маленстве такія дзеці мусілі прабываць у дзіцячых дамах або прыёмных сем'ях. Трэба заўважыць, што знаходжанне ў прыёмных сем'ях у большасці выпадкаў толькі часовае. І толькі ўсынаўленне стварае моцную сямейную сувязь.

Падкрэслім, што псіхафізічнае развіццё дзяцей, пазбаўленых апекі, знаходзіцца пад пагрозай, бо яны не ведаюць матчынай і бацькавай любові. Замест неабходнага цяпла бацькоўскага дома яны перажываюць вялікі дэфіцыт любові і пазітыўных эмоцый. Менавіта тады ў асобы могуць з'явіцца розныя незваротныя расстройствы, якія адаб'юцца і на далейшым жыцці, не выключаючы сужэнства і выхавання ў перспектыве іх нашчадкаў.

**Сям'я забяспечвае дзіця любоўю, клопатам, фарміруе яго як асобу**

Таму ўсынаўленне – не толькі тымі, хто не можа мець дзяцей, але і тымі, хто іх мае, – з'яўляецца і выратаваннем псіхікі дзіцяці, і спробай сфарміраваць яго асобу. Другі Ватыканскі Сабор вучыць, што ўсынаўленне пакінутых дзяцей ёсць першай і прывілеяванай формай сямейнага апостальства свецкіх людзей (Apostolicam actuositatem, 11). Бо ідэя ўсынаўлення заснаваная на тым, што паміж усынаўляльнікам і асобай, якую ўсынаўляюць, нараджаецца такая ж сувязь, як паміж бацькамі і біялагічным дзіцём. Касцёл усё часцей кажа пра ўсынаўленне. Падчас V Сусветнай сустрэчы сем'яў у Валенсіі (Іспанія) Бэнэдыкт XVI, заклікаючы сем'і да ўсынаўлення дзяцей, падкрэсліў роўнасць і годнасць біялагічных і ўсыноўленых дзяцей.

Сіла любові ў сям'і, якая ўсынаўляе, можа быць большая, чым у звычайнай сям'і. Бацькі, якія ўсынавілі дзіця, павінны прысвяціць яму ўсё сваё жыццё. Таму ўсынаўленне ў іерархіі добрых учынкаў і каштоўнасцяў займае найвышэйшую прыступку. Сям'я забяспечвае дзіця любоўю, клопатам, фарміруе яго як асобу, выхоўвае і падрыхтоўвае да самастойнага жыцця. Дзіця ж, калі стане самастойным, будзе абавязанае дапамагаць сваім бацькам, бо атрымала ад іх бескарыслівы дар любові і выхавання, за што павінна быць удзячным.

# Рыцары Евангелля

*Пачатак на стар.3*

## Прыклад рыцара для сучаснага хрысціяніна

Як жа быць рыцарам Евангелля, абаронцам Хрыста і веры? З каго браць прыклад? І тут таксама ёсць адказ – са святога Максімільяна Кольбэ, рыцара Беззаганнай.

У мінулым годзе свет адзначаў 70-годдзе яго мучаніцкай смерці ў Асвенцымскім канцэнтрацыйным лагеры, дзе ён добраахвотна ахвяраваў сваё жыццё за бацьку сям'і. Гэтым самым ён ажыццявіў словы Езуса Хрыста, што няма большай любові, чым калі нехта аддае сваё жыццё за іншых.

Ён у 1920 г. стварыў Рыцарства Беззаганнай і заснаваў часопіс "Рыцар Беззаганнай". Як адзначыў у гаміліі падчас нядзельнай Імшы Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, "святы Максімільян Кольбэ абвяшчаў Евангелле як жывым, так і друкаваным словам, а таксама сваім прыкладам, абвяшчаў аж да смерці".

Як адрозніць рыцара, па чым пазнаць яго? Рыцара як у вузкім, так і ў шырокім разуменні гэтага слова характарызуюць доблесці, сярод якіх адданасць Богу, мужнасць, вернасць і высакароднасць.

## Адданасць Богу

"Самая галоўная мэта такіх сустрэч, хоць часам і нузаўважная на першы погляд, – убачыць дзейснага Бога ў сваім жыцці, – адзначыў адказны за сустрэчу моладзі ў Івянцы кс. Віталь Драздоўскі.

– Бо гэта час, насычаны малітвай і разважаннямі, сустрэчамі з цікавымі людзьмі, канферэнцыямі і круглымі сталамі. Сёлетняя сустрэча заклікана абудзіць, а можа, нават і прывіць нашай моладзі некаторыя рыцарскія доблесці".

## Мужнасць

Зразумела, што ў наш час быць рыцарам, тым больш Евангелля, зусім непапулярна і нямодна, бо трэба быць мужным і не баяцца вылучацца сярод іншых сваімі поглядамі і каштоўнасцямі ў штодзённым жыцці. А яшчэ мужнасць патрэбна для таго, каб узяць на сябе адказнасць за кожнае зачатае жыццё, за супольнасць Касцёла, за яго развіццё.

Як адзначыў кс. Віталь Сідорка падчас канферэнцыі, "праз хрост мы пажадалі і прынялі рашэнне быць адказнымі за Касцёл, бо ўвайшлі ў яго супольнасць. Мы не можам быць «халяўшчыкамі», якія толькі бяруць, але самі нічога не ўкладваюць".

## Высакароднасць

Адметным пунктам праграмы сустрэчы стаў вечар танцаў і забаваў ад сяброў рыцарскага клуба. Гэты вечар яшчэ раз пацвердзіў, што каталіцкая моладзь умее радавацца па-Божаму. Для гэтага дастаткова толькі быць разам адно з адным і з Богам.



## Вернасць

На знак сваёй вернасці Богу напрыканцы сустрэчы маладыя людзі прысвяцілі сябе Беззаганнаму Сэрцу Марыі, просячы аб ласцы быць сапраўднымі хрысціянамі і годна насіць гэтае высокае імя.

Сустрэча ў Івянцы завяршылася. Але не трэба думаць, дарагі чытач, што рыцарамі Евангелля могуць стаць толькі тыя, каму пашчасціла быць у Івянцы. Ім можаш быць ты і я, калі любіш Бога і яго слова і ніколі не здрадзіш свайму Пану.

# Цішыня

**Святы чалавек, святая кніга, святы абраз, святая цішыня…Stop! Як гэта цішыня можа быць святой? У чым гэта праяўляецца?**

**Вікторыя Колзун**

Памятаю, на адных з рэкалекцый у айцоўкапуцынаў святар прапанаваў нам пасля вячэрняй малітвы не размаўляць паміж сабою, трываць у цішы аж да ранішняй малітвы. Прызнаюся шчыра, што атрымлівалася гэта ў нас не вельмі добра. Асабіста для мяне гэта было цяжкай пастановай. Магчыма, тады цішыня была для нас чымсьці незразумелым, магчыма, мы проста не ўмелі або нават і не мелі звычкі слухаць цішыню…

У сучасным свеце чалавеку вельмі складана адчуць цішыню. Заўсёды ёсць штосьці, што перашкаджае. А часам і сам чалавек не вельмі да гэтага ахвотны.

Паспрабуйце калі-небудзь station назіраць за сваімі думкамі, напрыклад, па дарозе ў школу, ва ўніверсітэт ці на працу. Нібы нявыкінутае ўчорашняе смецце, пустэча забівае галаву чалавека. Гэта ўрыўкі нядаўніх размоў, нявымаўленыя крыўды, успаміны, бессэнсоўныя мары і г.д. Чалавек уцякае ад больш глыбокіх разважанняў, ён баіцца цішыні, баіцца тых пытанняў ці думак, якія нараджаюцца ў ёй. Цішыня становіцца нашым ворагам, мы спрабуем яе пазбягаць. Тэлевізар, тэлефон, інтэрнэт, навушнікі, якія не вымаюцца ніколі з вушэй… Знаёма?!

Мы стараемся пазбягаць самых сябе. Дэманструем абыякавасць да свайго ўнікальнага ўнутранага свету.

Жыццё маладога чалавека быццам распісана па хвілінах. Мы стараемся браць, як кажуць, "па максімуме". Розныя "карысныя" рэчы забіраюць наш час: музыка, кнігі, разумныя размовы і г.д. Нават не хапае часу на адпачынак і сон…

Дык адкуль жа часам узнікае адчуванне такой адзіноты? Чаго не хапае пры такім удалым раскладзе? Ці Каго?

Каб пераадолець страх, адзіноту, тугу, трэба пачаць шукаць тую апору, шукаць Таго, каго сапраўды не хапае..

А зараз уявіце сабе, што ваш найлепшы сябар нечакана завітаў да вас у госці. Званок на ўваходзе не працуе, сябра пачынае стукаць у дзверы. Ніхто не адчыняе яму. Ён стукае ўсё мацней і мацней, але ўсё роўна ніхто не адчыняе. Вы не чуеце стуку, бо занятыя сваімі справамі, моцна грае любімая музыка або гучна працуе тэлевізар. Ваш сябра разумее, што далей стукаць у дзверы бессэнсоўна, адчувае расчараванне і вяртаецца дадому. Але, напэўна, яшчэ большае расчараванне адчуваеце вы пазней, калі даведваецеся пра няўдалы візіт свайго прыяцеля…

Якое ж расчараванне адчувае Той, хто кожны дзень стукае ў дзверы вашага сэрца? Як моцна Ён засмучаны, што вы не чуеце Яго, бо ў вашым жыцці зашмат шуму…

"Вось стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною…"(Ап. 3, 20)

Ніводная чалавечая блізкасць не зможа замяніць блізкасці Бога. Ніводная самая цікавая рэч у свеце не зможа замяніць трывання ў Яго святле, напоўненасці Богам.

Цішыня сама па сабе не з'яўляецца святой, але яна можа набліжаць нас да святасці. Бо голас Бога прамаўляе ў цішы. Шчаслівы чалавек, які зможа суцішыць гук шумнага штодзённага жыцця і пачуць тое, што дзеецца ў яго глыбінях…



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 жніўня 2012 г. Ян 6,54.60-69**

Езус – крыніца жыцця. Не ўсе хацелі прыняць навуку, што Езус – Бог.А таксама, што Бог – адзіны ў трох Асобах. Езус запытаўся пра гэта ў апосталаў. Яны вызналі веру ў Яго. Назвалі Езуса Святым Бога. Гэты адказ мае вялікае значэнне для духоўнага развіцця. Прызнанне Езуса Богам – гэта неабходная ўмова, каб ісці за Ім дарогай веры.

*– Якая мая вера?*

*– Ці клапачуся пра тое, каб ведаць сваю веру?*

*– Ці разумею, што спазнанне Божай навукі – гэта спазнанне Бога і Яго волі?*

*– Можа, уцякаю ад удумлівага разважання над тым, кім з'яўляецца для мяне Езус?*

*– Ці разумею, што толькі прыняцце ўсёй Хрыстовай навукі дазволіць мне карыстацца тымі дарамі, якія я атрымаў ад Яго?*

*– А можа, маю толькі агульнае ўяўленне пра Бога?*

*– Ці разумею, што гэта вядзе да павярхоўнай малітвы?*

*– Ці разумею, што з-за гэтага не змагу мець асабістай і глыбокай сувязі з Богам?*

*– Ці разумею, што гэта прыводзіць мяне да павярхоўнага і малаплённага перажывання святой Імшы?*

*– Што я ведаю пра Святы Дух?*

*– Як да Яго малюся?*

**2 верасня 2012 г. Мк 7.1-8,14-15,21-23**

Сапраўдная хрысціянская вера не можа быць крывадушнай. Нельга затрымлівацца на рэлігійных жэстах. Паважаць і любіць Бога трэба з глыбіні сэрца. Любоў да Бога, укаранёная ў глыбіні сэрца, павінна ахопліваць таксама і наша знешняе жыццё, і адносіны паміж намі. Грэх або "ўдар" у любоў сваім карэннем дасягае дна чалавечага сэрца. Часта заўважаем зло і грэх у знешнім вымярэнні. Але не заўважаем або не хочам заўважыць яго ў сваёй душы. Уншых думках. У філасофіі нашага жыцця. У нашых памкненнях. Езус перасцерагае сваіх вучняў ад такой крывадушнасці.

*– Ці люблю Пана Бога ўсім сваім сэрцам, усім сваім розумам і ўсёй сваёй душою?*

*– Ці заўважаю, калі раню Яго сваёй непаслухмянасцю ў думках, рашэннях?*

*– Ці разважаю над прычынай сваіх грахоў?*

*– Ці бачу свае добрыя і дрэнныя схільнасці?*

*– Ці ведаю гісторыю свайго духоўнага жыцця?*

*– Ці ведаю свае заганы і цноты?*

*– Ці працую над імі?*

*– А можа, падманваю сам сябе, звяртаючы ўвагу толькі на знешнія праявы свайго жыцця?*

*– Ці дазваляю Богу памяняць маё думанне, мае пачуцці, жаданні?*

*– Ці размаўляю з Ім пра тое, што знаходзіцца найглыбей у маёй душы? Пра мае комплексы, крыўды, спакусы?*

*– Ці прабачаю ў сэрцы?*

*– Ці размаўляю ў канфесіянале пра сваё сэрца?*

**9 верасня 2012 г. Мк 7,31-37**

Езус – чаканы Месія. Доказам гэтага былі цудоўныя знакі. Ён не маг, які робіць фокусы. Ён Бог, Які прынёс нам збаўленне. Усе жэсты, якія Ён робіць, павінны падрыхтаваць хворага да цуду аздараўлення. Гэта не магія. Не робіць гэта, каб заслужыць людскую славу або заклікаць да веры.

*– Кім з'яўляецца Езус у маім жыцці?*

*– Ці не хачу зрабіць Яго чарадзеем, які будзе выконваць мае жаданні?*

*– Ці магу заўважыць Божыя справы ў сваім жыцці і ў жыцці іншых людзей?*

*– Што шукаю: Бога ці рэлігійных сенсацый?*

*– Ці дазваляю Богу ўвайсці ў мае справы і аздаравіць мяне?*

*– Можа, маю такія справы ў сваім сэрцы, да якіх не дазваляю дакранýцца Езусу?*

*– Ці прашу Езуса, каб адкрыў мяне? Каб я мог увайсці ў здаровы кантакт з духоўным жыццём і навакольным светам?*

*– Ці не спрабую маніпуляваць Богам?*

**16 верасня 2012 г. Мк 8,27-35**

Езус стварае веру сваіх вучняў. Задае ім важнае пытанне, кім яны Яго лічаць. Калі тыя адказваюць, што Ён – Месія, адкрывае перад імі будучыню. Гаворыць пра смерць і змёртвыхпаўстанне, якога чакае. Гэта чарговае выпрабаванне і новы ўзровень развіцця вучняў. Пётр мае праблемы з прыняццем навукі пра цярпенне. Езус выхоўвае Пятра. Гаворыць, што яго думанне чалавечае. Дзякуючы сваім, не заўсёды правільнаму, разуменню Божых спраў чалавек часта становіцца саўдзельнікам шатана. Трэба, каб вучань Езуса адмовіўся ад свайго жыццёвага плану. Каб ішоў за Езусам нават на крыж. Тады Езус давядзе чалавека да паўнаты жыцця. Да сапраўднага вечнага жыцця.

*– Ці прызнаю Езуса сваім Месіяй?*

*– Ці тое, што я пра Яго думаю, супадае з тым, што Ён гаварыў пра сябе, і з тым, чаму навучае Касцёл?*

*– Ці бачу, як Ён патрэбны для майго жыцця?*

*– А можа, сам сабе спрабую прынесці збаўленне? А Езусу адводжу другасную ролю?*

*– Ці не завельмі прывязаны да сваіх поглядаў на маё жыццё і маё збаўленне?*

*– Ці задумваюся над тым, што Езус хоча для мяне?*

*– Ці хачу рабіць тое, што Ён хоча для мяне?*

*– Ці гатовы ісці за Ім, нават насуперак цяжкасцям?*

*– А можа, не заўважаю Яго слоў надзеі і суцяшэння? Бо празмерна ўглядаюся ў сябе і ў свае грахі?*

*– Ці хачу жыць у праўдзе, так, як Ён хоча і да чаго кліча?*

*– А можа, хачу жыць па-свойму? А Яго толькі "прыклеіць" у зручны момант?*

*– Ці разумею, што толькі з Ім знайду сапраўднае жыццё?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# Увесь для Радзімы

**Іван Хруцкі – самы знакаміты і адначасова самы невядомы беларускі мастак. Частку аднаго з нацюрмортаў беларусы кожны дзень трымаюць у руках шмат разоў. Бо менавіта гэтая выява змешчана на тысячнай купюры. Але мала хто можа прыгадаць прозвішча мастака. "Любімы незнаёмец" – так клічуць яго мастацтвазнаўцы. Ён быў нямногім сярод тых мастакоў, якія нарадзіліся ў Беларусі, жылі тут і памёрлі на сваёй Радзіме!**

■ **Эліна Калугіна**

Творы выдатнага мастака-беларуса І.Ф.Хруцкага ёсць ва ўсіх значных музеях у Беларусі, Расіі, Украіне, Літве, Латвіі, Польшчы. Самая вялікая калекцыя карцін жывапісца знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску. Сярод іх ёсць такія творы, якія можна лічыць візітнай карткай музея. Гэта – "Партрэт невядомай" (сяр. 1830-х) і "Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай"(1838 г.). Яны сапраўды належаць да найлепшых палотнаў майстра.

Нарадзіўся І. Ф. Хруцкі ў 1810 г. у мястэчку Ула Лепельскага павета Віцебскай губерні ў сям'і грэка-каталіцкага святара мясцовай уніяцкай парафіі. Пачатковыя веды атрымаў у Полацкім ліцэі на факультэце вольных мастацтваў. У 1827-ым ад'ехаў у Пецярбург, дзе браў урокі малявання у англійскага партрэтыста Д. Дау, а затым стаў вольным слухачом Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1828-1836 ). Хруцкі вярнуўся на Радзіму ў 1844 г. Большая частка яго жыцця прайшла ў Беларусі, непадалёк ад Полацка ў асабістым маёнтку Захарнічы. Тут мастак памёр у 1885 г.



**На здымку:** карціна І. Хруцкага «Партрэт жонкі з кветкамі і садавінай».




**На здымку:** фрагмент карціны І. Хруцкага на банкноце Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Творчая спадчына Хруцкага разнастайная. Ён маляваў іканастасы, пісаў інтэр'еры, пейзажы, часта звяртаўся да партрэта. Аднак Хруцкі вядомы найперш сваімі нацюрмортамі – маляўнічымі, дэкаратыўнымі, з ілюзорнай жыццёвасцю рэчаў. Гэтыя нацюрморты і сёння не страцілі сваёй прывабнасці і эстэтычнай каштоўнасці.

І ў сучасны час яго карціны захапляюць. У іх увасобілася спрадвечная цяга чалавека да бытавой утульнасці, сямейнага шчасця, сяброўства. Да спрадвечных каштоўнасцяў, якія былі істотнымі ва ўсе часы.

На беразе Шчапалок (цікава тое, што ў народзе яго называюць "Хруцкім возерам") захаваліся рэшткі маёнтка мастака. Непадалёк ад возера – лясныя могілкі, дзе пахаваныя сам Іван Хруцкі і яго родныя. На магіле мастака ўзведзены невялікі помнік. Можна не толькі атрымаць асалоду ад маляўнічых палотнаў І.Ф.Хруцкага, але і скласці даніну памяці вядомаму мастаку маленькай малітвай за яго душу.

**Дарагі кс. Андрэй Кулік!**

*Дазвольце павіншаваць Вас з Днём нараджэння, якое Вы святкуеце 26 жніўня. Жадаем Вам шмат Божых ласкаў і здароўя. Няхай Дух Святы ўзмацняе Вас у няпростай працы ў Віцебску. Памятаем Вас і горача молімся. Са Святам!*

*Яніна Вільчынская ад імя парафіянаў з Падсвілля*

**Шаноўны кс. Мікалай Ліпскі!**

*Прыміце нашы шчырыя віншаванні з Днём нараджэння, з 35-годдзем, якое Вы адзначылі 3 жніўня!*

*Жадаем Вам моцы Божай і Яго благаслаўлення на далейшую святарскую працу, моцнага здароўя, падтрымкі ад парафіян, спаўнення Вашых задум і жаданняў!*

*З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне капліцы в. Навасёлкі*

**Шаноўнаму кс. Генадзю Рэйшэлю**

*з нагоды Дня Нараджэння (16 жніўня) жадаем, каб вера, надзея і любоў ніколі не згасалі ў сэрцы, а кожны дзень жыцця быў напоўнены шчасцем і радасцю! Дзякуем за ахвярную паслугу Богу і людзям, добразычлівасць і прыгожы прыклад веры.*

*Парафіяне касцёла Св. Язафата, в. Канстанцінава*

**Хвала Хрысту!**

*Ад шчырага сэрца віншуем з 35-ай гадавінай з Дня нараджэння, пробашча лучайскага касцёла ксяндза Мікалая Ліпскага, якая прыпадае на 3-га жніўня. Хочам прыгадаць словы з Літаніі да святога Антонія Падуанскага: "Святы Антоні – палаючая паходня" Вось такі і наш пробашч. Захоплены ідэямі тварыць, упрыгожваць, не спыняецца на дасягнутым. Натхняе і вядзе да шчырай веры сваіх парафіян.*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Жадаем Вам здароўя, моцы. Каб збываліся ўсе планы. Няхай Пан Бог дапамагае Вам у нялёгкай працы, а Божая Маці атуляе сваёй міласэрнай апекай.*

*З павагай, парафіяне лучайскага касцёла*

**Віншуем ксяндза Аляксея Юркайца, пробашча Мосарскай парафіі, з Днём нараджэння!**

*А таксама віншуем яго з гадавінай святарства, якая прыпадае на 25 ліпеня!*

*Жадаем моцнага здароўя душы і цела, Божага бласлаўлення і Духа Святога ў душпастырстве!*

*Вернікі парафіі ў Мосары*

**Приглашаем на выставку!**

**В Красном костёле (г. Минск, ул. Советская, 15) 8-9 сентября 2012 года состоится выставка-продажа христианской книги.**

**Начало выставки 8 сентября в 10.00.**

**Закрытие — 9 сентября в 19.00.**

**Организаторы: Минско-Могилёвская архиепархия РКЦ в РБ, издательство «Про Христо» и приход костёла свв. Симона и Елены**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6579

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2800 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 22.08.2012 г. у 10.43

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621

9 772224 962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ